# СЛОНІМСКІ КРАЙ

№ 8, верасень 2016

Краязнаўчы бюлетэнь



*Забытыя земляки*

## Пётр Валеўскі — кіраўнік Слоніма



Пётр Валеўскі

На жаль, дагэтуль няма даведніка ці хаця б спісу людзей, якія кіравалі Слонімам у XIX — першых дзесяцігоддзях XX стагоддзя. У кнізе "Памяць. Слонімскі раён" аўтары-складальнікі абмежаваліся пералікам кіраўнікоў ад часу ўсталявання ў Заходняй Беларусі савецкай улады. Аднак інфармацыя збіраецца, з часам, калі запоўняцца ўсе "белыя плямы", з ёй мы пазнаёмім чытачоў "СК". А пакуль распавядзем пра чалавека, які адбудоўваў Слонім у канцы XIX стагоддзя.

**Пётр Антонавіч Валеўскі** быў гарадскім галавой у Слоніме ў 1885-1901/02 гадах. Гарадскі "галава" — кіраўнік выканаўчай улады (як цяперашні старшыня райвыканкама, толькі з іншымі магчымасцямі), ён стаяў на чале гарадской управы. Склад управы, разам з "галавой", выбіраўся гарадской думай на 4 гады. Управай мог кіраваць толькі заможны чалавек (ён мусіў валодаць маёмасцю на суму не менш за 15 тысяч рублёў).

*Працяг чытайце на с. 2*

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

*Слонімцы ў свеце*

## Наш чалавек на Сахаліне

У далёкім Паўднёва-Сахалінску жыве наш зямляк Сяргей Генадзьевіч Тараканаў. Ён — журналіст і паэт, галоўны рэдактар газеты "Южно-Сахалинск сегодня".

Нягледзячы на занятасць, Сяргей Генадзьевіч знайшоў час, каб, на нашу просьбу, напісаць успаміны пра сваё дзяцінства і Слонім, праілюстраваць іх фотаздымкамі. Ён нарадзіўся ў нашым горадзе 8 траўня 1953 года, але неўзабаве бацькі пераехалі ў Латвію, а пасля — у Расію. Аднак амаль кожнае лета прывозілі яго ў Слонім да дзядулі і бабулі. З слонімскіх "вакацыяў" засталіся яркія і цёплыя ўспаміны. Іх і прапануем увазе чытачоў "Слонімскага края".

*Працяг чытайце на с. 3*



Сяргей Тараканаў

# Пётр Валеўскі — кіраўнік Слоніма

*Працяг. Пачатак на с. 1*

Патрабаванне гэта было вельмі мудрае: калі на нейкія гарадскія праекты не было грошай, кіраўнік мог ахвяраваць і свае ўласныя сродкі.

Вядома, што ў 1863-1885 гадах Пётр Валеўскі служыў у Акруговым акцызным упраўленні ў Слоніме. На пасадзе гарадского "галавы" ў 1885 годзе ён змяніў **Аляксандра Іванавіча Барклоўскага**, які ачольваў управу з 1879 года. У адстаўку Барклоўскі пайшоў у 1884 годзе (магчыма, з-за стану здароўя), і да наступнага года пасада была вакантная. Гэта пры ім адбыўся вялікі слонімскі пажар 25 траўня 1881 года, які знішчыў большую частку забудовы цэнтра горада.

Пра час, калі гарадскім кіраўніком быў Пётр Валеўскі, у тагачасным выданні пісалі так: "Перыяд... адзначыўся шматлікімі пабудовамі і паляпшэннямі, многія з якіх былі здзейснены на яго асабістыя сродкі... створаны гарадскі сад, забрукаваныя вуліцы, уведзена асвятленне горада, зроблена агароджа могілак, створаны водаправод-самацёк, і пабудаваны казармы для двух батальёнаў... пры садзейнічанні П[ятра] А[нтонавіча] ўзніклі ў горадзе Пажарнае і Дабрачыннае Таварыствы, у апошнім з якіх ён з'яўляецца старшынёй".*

З пасады гарадского "галавы" Пётр Валеўскі сыйшоў у 1901-1902 гадах. Да 1904 года гэтыя абавязкі часова выконваў Пётр Станіслававіч Расінскі, чалец управы з 1891 года (у 1870-1880-я гады чальцом управы быў яго бацька Станіслаў Міхайлавіч Расінскі). Наступным гарадскім кіраўніком пасля Валеўскага быў абраны **Аляксандр Аляксеевіч Палтарацкі**.

**Сяргей Ёрш**

*Альбомъ городскихъ головъ Россійской имперіи. — Санктъ-Петербургъ, 1903, с. 255.

## ХРОНІКА

### Гісторыка-краязнаўчая віктарына

У жніўні Слонімскі грамадскі цэнтр (ён існуе пры кансультатыўнай установе "Шэгамед-кансульт") пры ўдзеле сябраў Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл правялі гісторыка-краязнаўчую віктарыну. Яна была прысвечана гісторыі Слонімшчыны і гісторыі Беларусі. Пераможцы атрымалі кнігу Сяргея Чыгрына "125 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны" з аўтографам. Адзначаецца, што з дапамогай віктарыны яе арганізатары паспрабавалі зацікавіць моладзь гісторыяй Айчыны.

### Іван Ціхан заваяваў срэбра на Алімпіядзе




Ураджэнец вёскі Глоўсевічы Слонімскага раёна паспяхова выступіў на алімпійскім турніры ў кіданні молата ў Рыа-дэ-Жанейра. 40-гадовы Іван Ціхан заняў другое месца. Срэбра тым больш каштоўнае, бо Іван вярнуўся ў вялікі спорт пасля працяглага перапынку. Віншуем!

### У слонімскі музей перадалі дакументы Антона Валынчыка

Гродзенец Яўген Петрашэвіч захаваў нямала цікавых дакументаў, якія датычаць жыцця і творчай дзейнасці нашага земляка, кампазітара, харавога дырыжора, педагога Антона Валынчыка (1896 — 1985). Гэта і нотныя сшыткі, і разнастайныя граматы, дыпломы, тэлеграмы, выразкі з газет. У жніўні ён пе-



радаў гэты скарб у Слонімскі раённы краязнаўчы музей імя Я. Стаброўскага.

### Новы сайт пра Слонімшчыну

Пачаў працу новы сайт, прысвечаны Слонімшчыне - www.1562.by. Ён з'яўляецца некамерцыйным і ставіць на мэце захаванне памяці пра Слонім. Заснавальнік сайта Аляксандр Саўчыц патлумачыў, што жадае, каб нічога з нашага мінулага не было забыта: "Цяпер шмат моладзі ходзіць па горадзе і нават не ўяўляе, якая гісторыя вакол іх! Таксама адна з мэтаў – гэта самім падзяліцца пра легенды, гісторыі, месцы Слонімшчыны!"

Сайт пабудаваны як на падставе навуковых артыкулаў, так і тэкстаў з перыядычных выданняў.

Вялікую цікавасць уяўляюць параўнаўчыя фотаздымкі, на якіх адлюстраваныя пэўныя месцы Слоніма ў мінулым і на сённяшні час.

### Дзяржава ўзяла пад ахову шэсць храмаў Слонімскага раёна

Пастановай Савета міністраў № 607 ад 2 жніўня 2016 года зацверджаны пералік матэрыяльных аб'ектаў, якім надаецца статус і катэгорыя гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь. У яго ўключаныя шэсць праваслаўных храмаў Слонімшчыны — у Збочна, Клепачах, Міжэвічах, Пасінічах, Старадзявяткавічах і Сурынцы. Цяпер яны знаходзяцца пад аховай дзяржавы.

# Сяргей Тараканаў: “Можна, мабыць, ствараць мясцовае слонімскае братэрства”



*Фаціма і Эмілія Шэгідзевіч. Слонім, 1930-я гады*

*Працяг. Пачатак на с. 1.*

Я жыву вельмі далёка ад Слоніма — на востраве Сахалін. Гэта зусім побач з Японіяй — расійскі Сахалін і японскі Хакайда падзяляе не вельмі шырокі праліў Лаперуза. З сахалінскага мыса Крыльён у добрае надвор’е можна разглядзець суседні японскі востраў. А вось родную Беларусь з Сахаліна, на жаль, не ўбачыш... У Слоніме я не быў вельмі даўно, але мару зноў пабываць у ім і спадзяюся, што гэта жаданне ўсё-ткі споўніцца.

Нарадзіўся я ў Слоніме ў 1953 годзе. Мая мама — Эмілія Газееўна Тараканава (у дзявоцтве — Шэгідзевіч). Нарадзілася ў Слоніме ў 1931 годзе, як яна казала, “за польскім часам”. Яе бацькі — татары, якія жылі на Татарскай вуліцы. Пры мне гэта была ўжо вуліца Кірава. Польскі перыяд жыцця маіх сваякоў адбіўся на іх імёнах. Дзядулю майго, Газея Самуілавіча Шэгідзевіча, на польскі манер называлі Казімірам. Памятаю, бабуля мая, Яўгенія Мустафаўна, называла яго ў сям’і Казікам. Малодшая маміна сястра, Фаціма, па бацьку была Казіміраўнай. Мама мая добра ведала польскую мову і перапісвалася са сваёй мамай менавіта на ёй. Можа быць, для нейкай сямейнай канспірацыі, не ведаю...

А бацька мой родам з Кіраўскай вобласці. У Слоніме ён служыў у арміі і вучыўся ў вячэрняй школе. Там ён і пазнаёміўся з маёй мамай. Яна ў Слоніме потым скончыла медыцынскую вучэльню. Потым бацька паступіў у Рыжскую вышэйшую ваенную авіяцыйна-тэхнічную вучэльню, і мы пераехалі ў Рыгу, дзе я хадзіў у дзіцячы садок. У 1960 годзе, калі бацька скончыў вучэльню, яго размеркавалі ў сібірскі горад Краснаярск. Там я пайшоў у школу. Скончыў яе ўжо ў таёжным ваенным гарадку, дзе тады дыслакавалася ракетная дывізія, у якой служыў бацька. Ледзь не кожны год падчас летніх школьных канікул я ездзіў у Слонім — то з мамай, то з татам, то з усімі бацькамі. У залежнасці ад таго, як у іх атрымлівалася з-за адпачынку.

Мае дзіцячыя ўспаміны вельмі ўрывачныя, але Слонім тых гадоў я добра памятаю. Вядома, Шчару, у якой я яшчэ маленькім хлапчуком, дрэнна ўмеючы плаваць, ледзь не патануў. З водмелі мяне пацягнула на глыбокае месца, я запанікаваў, насёрбаўся вады, але тут мужчына, які быў паблізу, схапіў мяне і выцягнуў.

Добра памятаю гарадскі рынак, куды дзядуля з бабуляй вазілі на продаж гародніну, зяляніну, яблыкі, што раслі ў іх вялікім агародзе. Памятаю багацце вазоў, на якіх у Слонім прывозілі сельскагаспадарчую прадукцыю з навакольных населеных пунктаў. Памятаю, як куплялі каля рынка газіроўку з сіфонаў, пажадана — з падвойным сіропам.

У Слоніме я навучыўся катацца на веласіпедзе дзядулі, на якім і вазілі на базар прадукцыю з агарода. Тады я не мог зразумець, чаму веласіпед у Слоніме называюць “ровар”...

Памятаю, як на ровары дзядулі ляцеў уніз па дрогкай бру-



*Бабуля, дзядуля і мама Сяргея Тараканава на ганку дома па вуліцы Кірава, 30 у Слоніме.*



*Генадзь, Сяргей і Эмілія Тараканавы ў Слоніме*

каванай каменем вуліцы — таксама польскай спадчыне.

Дом наш стаяў на вуліцы Кірава побач з чыгункай. Яна праходзіла ў некалькіх метрах за гародам — за так званай паласой адчужэння. Наколькі памятаецца, цягнікі хадзілі тады даволі рэдка. За чыгункай былі магутныя зараснікі вярбы, у якіх мы выразалі сабе рагаткі. Потым пачыналіся лугі, якія распасцерліся аж да Шчары, дзе мы вудзілі рыбу. Добра памятаю чыгуначны мост праз Шчару, кінатэатр "Мір", гасцініцу "Шчара", вінзавод, куды з дзядулем вазілі здаваць апалыя яблыкі. Апошні раз я апынуўся ў Слоніме, здаецца, у 1980-я гады. Была нагода — у Мінску праводзілася нарада журналістаў маладзёжных газет Савецкага Саюза. Але заехаў я тады ў Слонім літаральна на некалькі гадзін.

Дзяцінства — радасны час, таму ўспаміны пра Слонім у мяне самыя вясёлкавыя і так хочацца пабываць у ім!

Дарэчы, у Паўднёва-Сахалінску жыве некалькі слонімцаў, можна, мабыць, ствараць мясцовае слонімскае братэрства. Я думаю, што яны ўсе захоўваюць светлыя ўспаміны аб родным горадзе. Адзін з іх, Аляксей Лазар, скінуў мне па электроннай пошце здымкі сучаснага Слоніма. Перамены да лепшага ў горадзе вельмі прыкметныя! Таму я рады гэтаму.

*Пераклад з рускай мовы*

# Зноў пра Вельжабку

У мінулым нумары "СК" быў змешчаны артыкул пра слонімскую рэчку (цяперашні ручай) Вельжабку, прыток Шчары.[1] У ім згадваўся выпадак, калі ў пачатку лютага 1933 года яна выйшла з сваіх берагоў і затапіла 100 метраў вуліцы 3 Мая (цяперашняй Чырвонаармейскай). Ужо пасля выхаду нумару знайшлося фота паводкі 1933 года, яно было апублікавана ў газеце "Навагрудскі кур'ер".[2] У подпісе згадваецца, што вуліцу 3 Мая затапіла Вельжабка.



**Wiosenne powodzie**

Wraz z tajaniem śniegów rozpoczęły się w kil-ku okolicach Rzeczypospolitej wylewy rzek. Na zdjęciu naszem widzimy ulicę Trzeciego Maja w Słonimie, zalaną wodą wskutek wylewu rzeki Wielżabki.

Аднак на здымку бачым паводку, якая адбылася не ў лютым, а ў першай палове сакавіка 1933 года. Той жа "Навагрудскі кур'ер" пісаў у іншым нумары, што Вельжабка заліла 150 метраў вуліцы 3 Мая, Косаўскі тракт і частку Жыровіцкай вуліцы (цяперашняя вуліца Карла Маркса), падтопленыя былі каля 20 дамоў і гаспадарчых пабудоў. Адзначалася, што мясцовыя жыхары альбо ходзяць навакольнымі дарогамі і сцежкамі, альбо карыстаюцца лодкамі — вада заліла гэтую тэрыторыю на паўметра і працягвала прыбываць.[3] На жаль, пра тое, як доўга гэта працягвалася і якія былі страты, выданне не паведаміла.

А ў чэрвені 1933 года ў Вельжабцы знайшлі труп "вядомага слонімскага валацугі" 22-гадовага Аляксандра Прэдкі. Меркавалася, што ён патануў падчас прыпадку эпілепсіі.[4]

Мы пісалі са слоў старажылаў, што Вельжабка атрымала новае рэчышча ў пасляваенныя гады. Аднак варта пашукаць дакладную дату. Высвятляецца, што яшчэ польскія ўлады спрабавалі вырашыць праблему паводак. Вясной 1933 года слонімскі магістрат праводзіў даследаванні і збіраўся падрыхтаваць праект "рэгуляцыі ракі Вельжабкі".[5] Якія ў той час праводзіліся працы, на жаль, пакуль невядома.

**СЁ**

1. Ёрш С. Вельжабка ў Слоніме // Слонімскі край, 2016, № 7, жнівень, с. 11-12.
2. Kurjer Nowogródzki, 1933, № 82, 24 сакавіка.
3. Kurjer Nowogródzki, 1933, № 75, 17 сакавіка.
4. Kurjer Nowogródzki, 1933, № 167, 22 чэрвеня.
5. Kurjer Nowogródzki, 1933, № 88, 30 сакавіка.

*Старыя фотаздымкі*

# Пахаванне польскага афіцэра ў 1916 годзе на могілках у Рышчыцах



*Альбін Ян Флешар*



3 лістапада 1916 года ў вайсковым шпіталі ў Слоніме застрэліўся польскі афіцэр, блізкі паплечнік Язэпа Пілсудскага 28-гадовы Альбін Ян Флешар. Ён быў удзельнікам польскіх легіёнаў, якія ваявалі супраць рускай арміі ў складзе войска Аўстра-Венгрыі. Камандаваў 7-м палком 1-й брыгады легіёнаў, меў вайсковае званне маёра. У Слоніме ён апынуўся пасля цяжкіх баёў на Палессі і Валыні.

У ліпені 1916 года Пілсудскі падаў у адстаўку з пасады камандзіра легіёна — спрабаваў шантажаваць імперскую Вену, якая не пагаджалася на стварэнне незалежнай польскай дзяржавы. Не ўсе яго паплечнікі разумелі гэтую складаную гульню. Не зразумеў і Флешар. Ён палічыў, што ўся двухгадовая легіянерская дзейнасць закончылася поўным паражэннем. Дэпрэсія неўзабаве перарасла ў рашэнне звесці рахункі з жыццём. А праз два дні пасля яго самагубства было абвешчана пра стварэнне “самастойнай польскай дзяржавы”...

У інтэрнэце на польскіх сайтах, у Вікіпедыі, прысутнічае блытаніна з датай трагічнай смерці А. Флешара ў Слоніме. Падаецца і 3 верасня, і 3 лістапада. Праўдзівая дата — 3 лістапада, яе пацвярджае Музей Язэпа Пілсудскага.

На сайце польскага Нацыянальнага лічбавага архіву (audiovis.nac.gov.pl) змешчаныя 8 здымкаў з пахавання ў Слоніме маёра Флешара. Яны былі ўзятыя са збораў Інстытута імя Пілсудскага. Аднак, падчас іх вывучэння, аказалася, што да Слоніма маюць дачыненне толькі 5 здымкаў. На іх зафіксаваны рух жалобнай працэсіі, складзенай з вайскоўцаў, да могілак і пахаванне. Здымкі вельмі каштоўныя, бо на іх мы бачым былую вёску Рышчыцы і яе наваколле. Альбіна Флешара пахавалі на старых вясковых могілках, на ўчастку, дзе адбываліся пахаванні вайскоўцаў аўстра-венгерскага і нямецкага войска. Цяпер гэтыя вайсковыя могілкі ўпарадкаваныя, яны знаходзяцца каля Інтэрнацыянальнай вуліцы.

Газета “Głos Rzeszowski” (№ 50 ад 3 снежня 1916 года) пісала ў некралогу: ”У нядзелю дня 5 лістапада рушыла са шпіталя ў Слоніме пахавальная працэсія маёра Флешара”. На адным з інтэрнэт-аўкцыёнаў знайшліся два здымкі выхаду пахавальнай працэсіі з тэрыторыі вайсковай часткі. На адным з іх бачым мост, верагодна, праз рэчку Вельжабку. У пахаванні ўдзельнічалі польскія (прысутнічаў палкоўнік Эдвард Рыдз-Сміглы, будучы маршал), аўстрыйскія і нямецкія вайскоўцы. На магіле быў усталяваны крыж з шыльдай.

Аднак ужо ў снежні 1916 года маёра Флешара перапахавалі на вайсковых могілках у Варшаве (на Powązkach). У шматлікіх публікацыях нярэдка памылкова пішуць, што перапахаванне адбылося “пасля вайны”. Аднак у тагачаснай польскай прэсе гэтая падзея падрабязна асвятлялася. Дарэчы, 3 фота з польскага Нацыянальнага лічбавага архіву, на якім бачым пахавальную працэсію на гарадской вуліцы, гэта не Слонім (як пазначана ў подпісах да здымкаў), а Варшава.* Як пісала газета “Kurjer Warszawski” (№ 348 ад 16 снежня 1916 года), цырымонія перапахавання прайшла раніцай 16-га. На помніку, усталяваным на магіле, напісана: “Альбін Флешар. 1888 — 1916. Навуковец і жаўнер. Загінуў у барацьбе за свабоду Айчыны і гонар народу”.

**Сяргей Ёрш**

*Адзін з варшаўскіх здымкаў з подпісам “Пахаванне маёра. Слонім, 1916 г.” памылкова трапіў у кнігу “Гісторыя Слоніма на старых фотаздымках і паштоўках [1900 — 1950]. — Мінск: “Кнігазбор”, 2014, с. 40.

# Які лёс чакае Лютэранскія могілкі ў Слоніме?

У Слоніме насупраць Ружанскіх могілак, на супрацьлеглым баку вуліцы Ружанскай, знаходзяцца старажытныя Лютэранскія могілкі. Мала хто пра гэта ведае. На шчасце, там захаваліся яшчэ тры магілы з крыжамі. Яны — маўклівыя сведкі таго, што раней на цяперашнім незабудаваным узвышшы былі вялікія могілкі, на якіх хавалі нашых землякоў і чужынцаў.

У XVI стагоддзі Заходнюю Еўропу ахапіла полымя рэлігійных войн, выкліканае распаўсюджваннем ідэй Рэфармацыі. Гэты рух, які імкнуўся даператварэнняў унутры каталіцкай царквы, паступова ахапіў увесь кантынент. У выніку ў Вялікае княства Літоўскае, дзе, у адрозненне ад Захаду, панавала рэлігійная талерантнасць, накіраваліся тысячы перасяленцаў, якія шукалі тут паратунку, знаходзілі новае месца для жыцця і працы. Сярод іх былі лютэране — прадстаўнікі новай плыні хрысціянства, заснаванай пачынальнікам Рэфармацыі Марцінам Лютэрам.

Паступова новы рух пачаў распаўсюджвацца у мястэчках і гарадах Беларусі. Нягледзячы на тое, што ў Рэчы Паспалітай большую папулярнасць набыў кальвінізм, да якога далучаліся многія прадстаўнікі магнацкіх родаў, у тым ліку Радзівілы, пэўнае распаўсюджанне атрымалі і лютэране, частка якіх пасялілася ў Слоніме.

На ўскраіне горада яны заснавалі асобныя могілкі. На ўсіх гарадскіх планах, створаных ужо ў XIX ст., яны па плошчы не меншыя за суседнія Ружанскія "ўніяцкія" могілкі. Дарэчы, на Ружанскай вуліцы, насупраць Лютэранскіх могілак, на плане Слоніма 1823 года пазначаны "каравул пры заставе або шляўбаўм" (№ 12). Там кантраляваўся ўезд у горад з захаду.

Колькасць лютэран у Слоніме была нязначнай. Напрыклад, у 1846 годзе з 6403 жыхароў




*Лютэранскія могілкі на плане Слоніма 1823 года*







горада толькі 89 былі лютэранамі.[1] Аднак іх абшчына заўсёды вылучалася сваёй актыўнасцю і еднасцю.

Цяжка сказаць, калі Лютэранскія могілкі апынуліся ў жахлівым заняпадзе. Відаць, войны і савецкія часы ваяўнічага атэізму зрабілі сваю чорную справу. Апошнія магілы адносяцца да другой паловы XIX стагоддзя. На адной з пліт захаваўся надпіс, з якога вынікае, што там пахаваны штабс-капітан Мікалай Канстанцінавіч Таўсталес, які памёр у студзені 1862-га ва ўзросце 33 гадоў.

На шыльдзе пад іншым крыжом паведамляецца, што там пахаваны Леў Восіпавіч Ганчароўскі, якога не стала ў 1882 годзе. Помнік яму паставілі яго таварышы.

Як распавядалі ў 2000 годзе старажылы, у даваенны час на ўскрайку могілак з боку Ружанскай вуліцы быў драўляны дом састарэлых. У ім жыло каля 20 чалавек. Загадчыцай была жанчына. Падчас Другой сусветнай вайны будынак згарэў.[2] Зусім магчыма, што "багадзельня" (дабрачынная ўстанова для непрацаздольных людзей) існавала там яшчэ з царскіх часоў, а тых яе жыхароў, якія паміралі, хавалі тут жа, на старых могілках.

Адзінае, што нагадвала пра той дом — гэта прыступкі, якія ішлі ад вуліцы на ўзгорак. Аднак у 2000-я іх чамусьці засыпалі.

У Слоніме ўжо страчана нямала старажытных могілак. Гэта хрысціянскія і яўрэйскія могілкі на Замосці, яўрэйскія могілкі каля галоўнай сінагогі, могілкі па вуліцы Пушкіна... Каб гэты спіс не папоўніўся, варта зберагчы Лютэранскія могілкі, дакладней іх рэшткі, добраўпарадкаваць, агарадзіць іх тэрыторыю, каб яна не ператваралася ў сметнік.

**Васіль Герасімчык,**
**Сяргей Ёрш**

1. Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. — Słonim, 1934, s. 33.
2. Ёрш С. Вуліца Ружанская // Газета Слонімская, 2000, № 15, 6-12 красавіка.







*Старыя фотаздымкі*

# Кніжнік Лукаш Струпавец

Гэты здымак паходзіць з сямейнага архіву сланімчанкі Надзеі Іванаўны Харытончык (Струпавец). З ёй нядаўна пазнаёміў Мікалай Іванавіч Ракевіч.

На фота — дзед Надзеі Іванаўны Лукаш Струпавец, жыхар вёскі Якімавічы. Справа — яго жонка Марыя, унучка Яўгенія, злева — унук Васіль і дачка Ганна. Здымак зроблены напярэдадні Першай сусветнай вайны.

Лукаш Струпавец быў цікавым чалавекам. Яго вабілі кнігі, больш, чым праца на зямлі. Вельмі любіў чытаць. Вось і на гэтым сямейным здымку ён трымае ў руках кнігу.

**СЁ**

# Пра беларускі асяродак у Якімавічах у міжваенны час




У 1930-я гады ў вёсцы Якімавічы Слонімскага раёна існаваў моцны беларускі асяродак.

Летам 2000 года Зоя Цімафееўна Касабуцкая, жыхарка вёскі Якімавічы, 1923 года нараджэння, успамінала: “Пры Польшчы [ў Якімавічах] было “кулко рольнічэ” і “кулко молодежнэ” (сельскагаспадарчы і маладзёжны кружкі)... не палітычнае, а грамадскае”.

Кружок вясковай моладзі ў Якімавічах быў заснаваны 5 студзеня 1933 года. Ініцыятарам выступіў дырэктар мясцовай школы Яўстах Кадова, паляк, яго ж абралі на старшыню.

Усе астатнія былі беларусамі з Якімавіч і навакольных хутароў — 18 чалавек. Намеснікам Кадовы быў Фёдар Данільчык, скарбнікам — Мікалай Струпавец, сакратаром — Канстанцін Панасеня, бібліятэкарам — Язэп Швайдзюк. У першыя месяцы яны праводзілі асветніцкую працу і рыхтавалі "аматарскае прадстаўленне".*

Такім чынам, арганізацыя была цалкам легальная, мела афіцыйнага кіраўніка-паляка, а значыць магла дзейнічаць без перашкодаў з боку польскіх уладаў.

Ва ўспамінах Зоі Касабуцкай не згадваецца Яўстах Кадова, сапраўднымі кіраўнікамі яна справядліва лічыла мясцовых жыхароў.

"Арганізоўвалі старэйшыя людзі, яны ўжо паўміралі, — успамінае Касабуцкая. — Першы арганізатар быў Данільчык Фёдар Сцяпанавіч... Граматныя былі хлопцы. Было многа іх. А мы ўжо малодшыя былі.

У каго лепшыя галасы, бралі нас, пару дзяўчат, рэпеціравалі песні, на хутар хадзілі. Каб заспяваць [на выступленні] некалькі беларускіх песень, трэба было і польскую [песню] абавязкова...

Каб ехаць на выступленне ў Слонім, давалі падводы. Туды завязуць. Як памятаю, выступалі мы 1 сакавіка і ў чэрвені месяцы. Спявалі беларускую песню "О, край родны, край прыгожы". Быў у нас і струнны аркестр.

П'есы ставілі. Таксама, як і з песнямі, трэба было і польскую [п'есу]. Паліцыянт прыглядваў.

Бібліятэка была. Выпісвалі з Вільна беларускія кнігі. Дазвалялі... Польскія і беларускія кнігі... Пасля мне бібліятэку гэтую даручылі...".

Дзейнасць арганізацыі спынілася восенню 1939 года з усталяваннем на Слонімшчыне савецкай улады.

**Сяргей Ёрш**

*Kurjer Nowogródzki, 1933, № 69, 11 сакавіка.

*Кнігі пра Слонім*

# *Пра падзеі 1812 года*




*Charkiewicz W. Rok 1812 w powiecie Słonimskim. — Słonim, 1936. 22 s.*

У 1936 годзе ў Слоніме была надрукавана невялічкая кніжка Валяр'яна Харкевіча, прысвечаная падзеям 1812 года на Слонімшчыне.

Яна пачынаецца з аналізу становішча земляў падзеленай Рэчы Паспалітай напярэдадні вайны, а таксама ўплыву асобы Напалеона і яго падтрымкі з боку мясцовай шляхты. Але частка яе на чале з Міхаілам Клеафасам Агінскім і Адамам Чартарыйскім выступалі ў падтрымку расійскага імператара Аляксандра ІІ.У такіх абставінах праца выведкі праціўніка мела важнае значэнне. Таму Харкевіч прыводзіць вытрымкі з дакументаў тайнай урадавай карэспандэнцыі аб становішчы ў Слонімскім павеце і метадах недапушчэння пранікнення на яго тэрыторыю французскіх шпіёнаў.

На той час у Слоніме было 630 будынкаў і жыло 2380 чалавек, а ва ўсім павеце налічвалася каля 35 тысяч чалавек.

Далей апісваецца размяшчэнне расійскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі і пачатак баявых дзеянняў.

Сітуацыя для рускага войска, якое, як і французы, праводзіла рэквізіцыі прадуктаў харчавання, ускладнялася супрацівам тутэйшага насельніцтва.

У сваім рапарце генерал Тормасаў адзначаў: "Усе жыхары (Гродзенскай губерні) збунтаваліся супраць нас – узброіліся віламі і косамі, хаваліся ў лясах, уцякалі перад нашымі войскамі і нападалі на меньшыя аддзелы і на кур'ераў".

Ужо 30 чэрвеня 1812 года ў Слоніме быў падпісаны акт Канфедэрацыі мясцовай шляхты, якая выступіла на баку Напалеона. Пад дакументам змешчаны 170 подпісаў (Харкевіч прыводзіць поўны тэкст, а ў дадатку змяшчае прозвішчы ўсіх тых, хто пад ім падпісаўся — важнае падмацаванне для генеалагічных даследаванняў). Але чаканні шляхты былі падманутыя, паколькі французам у Беларусі былі неабходныя толькі сродкі (у першую чаргу харчаванне) для вядзення баявых дзеянняў далей на Усходзе.

Харкевіч падрабязна апісвае падзеі, якія разгарнуліся вакол Слоніма ў 1812 годзе. Згадвае пра асобу генерала Канопкі і яго пралікі пры падрыхтоўцы абароны горада ад рускіх войск.

У цэлым кніга Валяр'яна Харкевіча па сваім аб'ёме з'яўляецца хутчэй артыкулам, у якім змешчаны вытрымкі з шэрагу дакументаў часоў вайны 1812 года, а таксама даюцца спасылкі на іншыя польскамоўныя тэксты, у якіх згадваецца Слонімшчына ў згаданы перыяд.

**Васіль Герасімчык**

# Аляксандр Турук і Аркадзь Лысуха — уніяцкія рэгенты ў Альбярціне



*Уніяцкая царква і кляштар у Альбярціне, канец 1930-х гадоў*



*Царкоўны алтар*

У міжваенны час у Альбярціне існавала Усходняя місія айцоў-езуітаў, дзейнічала ўніяцкая парафія (“візантыйска-славянскага абраду”). Уніяцкую царкву, спачатку драўляную, а пасля і цагляную (яе пабудавалі ў 1936 годзе, цяпер — праваслаўны храм), наведвалі сотні альбярцінцаў і жыхароў бліжэйшых вёсак. Большасць святароў місіі былі людзьмі не мясцовымі (быў нават амерыканскі грамадзянін), а вось псаломшчыкамі, рэгентамі з’яўляліся беларусы.

Псаломшчыкам ва ўніяцкай царкве ў Альбярціне і рэгентам хору быў Аляксандр Турук, жыхар вёскі Якімавічы Слонімскага раёна. Расказваюць, што калі ён прыязджаў з сям’ёй у Альбярцін, дык жонка з дзецьмі ішла ў рыма-каталіцкі касцёл, а ён — ва ўніяцкую царкву. Але сын вянчаўся якраз у апошнім храме.

Калі ў верасні 1939 года ўсталявалася савецкая ўлада, Турук перастаў прыязджаць у Альбярцін. Тады замест яго псаломшчыкам і рэгентам стаў Аркадзь Лысуха.

Лысуха — ураджэнец вёскі Сурынка. У яго былі хворыя ногі, ён з цяжкасцю хадзіў. Як успамінала Валянціна Бояр (1926 — 2009), у яго “быў добры голас, ведаў ноты”. Лысуха меў “здольныя рукі”, быў добрым пераплётчыкам кніг.[1]

На пачатку Другой сусветнай вайны большасць святароў і манахаў выехалі з Альбярціна, на месцы застаўся толькі а. Вальтэр Цішак (той самы амерыканец). У сваіх успамінах ён падрабязна напісаў пра тое, як бальшавікі занялі будынак кляштара, рабавалі царкву, і яе давялося зачыніць (у ёй пазней улады наладзілі кінатэатр). Аднак а. Цішак арганізаваў нелегальную дзейнасць уніяцкай парафіі, набажэнствы адбываліся ў сутарэннях суседняга рыма-каталіцкага касцёла. У гэтыя сутарэнні Лысуха перанёс ноты і частку кніг з кляштара[2] (большая частка бібліятэкі была знішчаная савецкімі салдатамі).

У канцы 1939-га а. Цішак атрымаў загад ад царкоўных уладаў выехаць з Альбярціна. Пасля гэтага ўніяцкіх святароў там не было, аж пакуль восен-



*Аркадзь Лысуха сядзіць злева ад уніяцкіх святароў а. Станіслава Ласкі і а. Розэмана. На здымку хлопцы, якія вучыліся пры кляштары сталярнай справе і іншым рамёствам. Фота 1936-1937 гг. Друкуецца ўпершыню.*

ню 1940-га не прыехаў а. Антон Неманцэвіч. Як ён пасля пісаў у справаздачы, набажэнствы для ўніятаў у 1940-1941 гг. адбываліся ў сутарэннях касцёла ў нядзелі і святочныя дні. На іх збіралася каля 20 чалавек. Казанні а. Неманцэвіч прамаўляў па-беларуску.[3] Безумоўна, сярод тых двух дзясяткаў вернікаў быў і Аркадзь Лысуха. Ён стаў верным памочнікам а. Антона Неманцэвіча. Прозвішча Лысухі нават згадваецца ў матэрыялах Сабору ўніяцкіх экзархаў, якi прайшоў у чэрвені 1942 года ў Львове (а. Неманцэвіч з 1940-га быў кіраўніком Беларускага грэка-каталіцкага экзархату).[4]

Падчас нямецкай акупацыі ў жніўні 1941 года а. Неманцэвіч аднавіў набажэнствы ва ўніяцкай царкве, яны працягваліся да лета 1942-га, калі ён быў арыштаваны. Пасля гэтага ўніяцкіх святароў у Альбярціне больш не было, царкву зноў зачынілі.

У пасляваенны час Аркадзь Лысуха і частка іншых былых уніятаў сталі прыхаджанамі праваслаўнай царквы, якая знаходзілася на альбярцінскіх могілках (яе там пабудавалі ў канцы 1930-х). Ён памёр у 1960-я гады ў доме састарэлых, куды яго аддалі сваякі.[5]

Трагічны лёс быў у Аляксандра Турука. Летам 1943 года яго, жонку і дваіх дзяцей у вёсцы Якімавічы расстралялі савецкія партызаны.[6]

**Сяргей Ёрш**

1. Паведамленні Валянціны Бояр аўтару гэтых радкоў ад 12 лютага і 28 снежня 2001 г.
2. Паведамленне В. Бояр ад 12 лютага 2001 г.
3. Ёрш С. Невядомыя дакумэнты Беларускага Грэка-Каталіцкага Экзархату // Наша ніва, 2001, № 29, 16 ліпеня.
4. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Львове, ф. 201, воп. 1, спр. 16, арк. 134 адв., рукапіс.
5. Паведамленні Ніны Аляксеевай ад 2000 г. і В. Бояр ад 28 снежня 2001 г.
6. Ёрш С. Што яны выраблялі! // Газета Слонімская, 1997, № 9, 1-7 жніўня.



Хаця царква ў Альбярціне зачынена праз [illegible] пад [illegible] кіно, аднак служба адбываецца пад касцёлам акуратна кожнаю нядзелю і свята. Збіраецца каля 20 асоб, заўсёды говорыцца казанне па-беларуску, для ўзмацавання веры.

А. Неманцэвіч

У справаздачы ад чэрвеня 1941-га пра дзейнасць Беларускага грэка-каталіцкага экзархату а. Антон Неманцэвіч згадаў пра набажэнствы ў сутарэннях касцёла. Друкуецца ўпершыню.



Былыя ўніяты, а сярод іх і Лысуха (злева ад святара) каля праваслаўнай царквы на альбярцінскіх могілках. Фота другой паловы 1940-х гадоў. Друкуецца ўпершыню.



Касцёл у Альбярціне, у сутарэннях якога ў 1939-1941 гг. маліліся ўніяты.

# “Горад кляштараў”

Жыццё ва ўмовах паскоранага бегу часу вымушае нас забывацца пра прыгажосць роднага краю. Але калісьці маляўнічасць Слонімшчыны натхняла людзей на вялікія справы. Нездарма выпадковыя падарожныя да канца жыцця не маглі забыцца на яе краявіды, пакідаючы свае апісанні ў шматлікіх нататках.

Адным з такіх мінакоў у свой час быў польскі краязнавец **Вільгельм Хенеберг**, які ў часопісе “Зямля” (*Ziemia, 1925, № 10-12)* надрукаваў артыкул пра горад Слонім.

У яго нататках не знайшлося месца “беларускаму”, усё нашае было падменена “крэсавым” і “польскім”. Таму ў запісах Хенеберга Слонім выступае як “польскі” горад. Але ў такога кшталту запісах галоўным з’яўляюцца апісанні, эмацыйная афарбаванасць, ураджанні аб помніках архітэктуры і вулачках, на якія сёння не кожны жыхар Слонімшчыны звяртае ўвагу.

Паглядзець на Слонімшчыну вачыма падарожнага — святая справа ў развіцці любові да роднага краю.

**Васіль Герасімчык**



*Брама пры былым бернардынскім касцёле. Фотаздымак А. Вітоцкага*

Калі едзеш шырокім пясчаным трактам з Дзярэчына, былой рэзідэнцыі князёў Сапегаў, або шашою з боку нудных і брудных Баранавіч, скрыжавання некалькіх чыгуначных ліній, ці, нарэшце, з боку старажытнага жыровіцкага кляштару, месца паломніцтва польскіх рыцараў перад іх паходам на Маскву, заўсёды, праязджаючы праз багатую лясамі і ўзгоркамі сярэдняй ўрадлівасці мясцовасць, натрапіш на старажытны горад Слонім. Калі едзеш з любога з тых бакоў, першымі табе адкрываюцца вяршыні гарадскіх вежаў; затым, калі вы спяшаецеся з Дзярэчына, раптоўна перад вамі з’яўляецца нешта падобнае на вялікія вароты. За маляўнічымі лагоднымі пагоркамі вы ўбачыце горад, які ляжыць на плоскай вяршыні. Каб асіліць гэтыя пагоркі, трэба добра падцаць каню, або неабходны магутны паліўны рухавік.

З радасцю запрашаюць Вас узнёслыя белыя муры высачэзных сабораў, горача вітаюць іржавыя кляштарныя дахі. Погляд засяроджваецца на прыгожым аттыку маляўнічай сінагогі… Тут і там вялізныя дахі, набор шматлікіх пабудоў, вашу ўвагу прыцягваюць старыя палацавыя будынкі. Сетка дамоў, бліжэй да цэнтру горада заблытаная, далей рой слабейшых, якія ўтвараюць вуліцы і завулкі.

На ўездзе ў Слонім, у чатырох яго кропках, стаяць каплічкі, адна з іх вельмі багатая архітэктурна, хоць і без арнаментаў, пад сваім дахам, размешчаным на чатырох калонах, мае пасаджаную на сцябло, абароненую ад дажджу і сонца, статую святога Дамініка.

Статуя быццам не адпавядае гэтай каплічцы. Халодныя і простыя лініі постаці святога далёка адыходзяць ад набрынялых і моцна адцененых сонцам форм капліцы, вельмі падобныя на капліцу святога Гіяцынта ў Вільні. Прасцей кажучы, на дарозе, вя-




дучай у горад, недалёка ад мастка, перакінутага праз ручай, у атачэнні бяроз, пасаджаных залатымі рукамі, капліца весела вітае мінака са сцёртымі нагамі. З дзвюх каплічак, якія засталіся, адна, пры дарозе на Жыровічы — пашкоджана да непазнавальнасці, а ад трэцяй засталіся толькі аскепкі…

Вылавіўшы са зграі дамоў і дамешкаў важнейшыя архітэктурныя пункты, мы атрымліваем шэраг цікавых гістарычных будынкаў. Калі б мы змаглі адрадзіць два кляштары з гатычнымі касцёламі, рэшткі аднаго з якіх нават яшчэ захаваліся для вачэй мясцовых жыхароў, а пра другі маем ўяўленне на падставе закінутых за апошнія 30 гадоў скляпенняў, то атрымалі бы карціну польскага памежнага “кляштарнага горада”.

Нізкія берагі… Экспансіўная рака Шчара працякае тут уздоўж спускаючага на левым яе беразе плато, на якім квітнее горад. Яе правы бераг, праходзячы вялізную раўніну, і па сённяшні дзень уяўляе брудную пашу, сукупнасць балот і водна-балотных ўгоддзяў, абараняючы горад ад навалы з усходу, на славу Божую і пабудаваную Рэч Паспалітую. Нацягнутая цеціва Шчары ахоплівае дугу кляштараў, пасярод



*Кляштар бернардынцаў і Свята-Троіцкая царква. Фотаздымак Г.Браўна*

якіх выступае сінагога.

З баку Жыровіч самотна пазіраюць на вас рэшткі кляштара, касцёл якога ў расійскія часы быў разбураны. Пілястры, карнізы, унутранныя скляпенні і план будынка указваюць на барокавы стыль. Сёння аб ім без даследавання засыпаных фундаментаў сказаць нешта большае нельга.

Другі будынак у паўколе слонімскіх пабудоў - кляштар і касцёл бернардынаў. Гэта выдатнае відовішча: узор архітэктуры польскага барока нашых усходніх тэрыторый. І калі хто-небудзь будзе размаўляць аб польскім стылі ў архітэктуры, то гэты касцёл у першую чаргу павінен быць узяты пад ўвагу. Ён утрымлівае ўсю Польшчу ў яе лепшыя часы.

Гэты касцёл стаіць на невялікім пагорку. Ён як бы вырастае з яго. Магутныя схілы абапіраюцца на чатырохгранную вежу, якая пераходзіць ад трэцяга паверха ў васьмікутнік, утвараючы спецыфічную архітэктуру. Зрошчаны з ёю з правага боку флігель аптычна моцна падтрымлівае магутную вежу. Маленькія, круглыя адтуліны, зробленыя для стральбы, і вузкія вокны, размешчаныя на верхнім паверсе званіцы, падкрэсліваюць яе магутнасць. Вельмі нізкі, азначаны паўаркай, ўваход у вежу, з выдатнай ручной цэглы і тынкоўкі, завершаны прымітыўнымі барокавымі парталамі, якія звязваюць корпус касцёла з узгоркам, ствараючы адзіную кампазіцыю з навакольным асяроддзем. Тры акны на кожным баку касцёла нагадваюць сваімі прапорцыямі гатычныя, з-пад якіх, амаль непасрэдна, крэсавая архітэктура прыйшла пад панаванне такой дасканала гарманіруючай з польскім нацыянальным характарам свабоды стылю барока.Гэтая святыня, як і ўсе іншыя, што захаваліся ў Слоніме, з’яўляецца нефавай. Далей серыя нефаў ідзе ва ўсходнім накірунку, шырынёю ў шэсць метраў, меншыя, чым неф, які пераходзіць у падаўжэнне прэзбітэрыюма. Дзве капліцы, прыбудаваныя за сродкі навакольных сем’яў некалькі дзесяткаў гадоў пазней, утвараюць з рэшткамі касцёла ў плане крыж.

Сціплыя звонку, нягледзячы на барока, блокі капліц, з прымітыўнымі ліхтарамі ў верхняй частцы, прыгожа выступаюць купалападобным перакрыццем з мяккім перапляценнем галькі. Унізе, справа, стаіць брамка, моцна пашкоджаная ад часу і людзей. Яна стварае, будучы ўваходам у кляштарны сад, тып маленькага барбакану. Дэкор настолькі арыгінальны, што, калі, абапіраючыся на яго, адзін студэнт распрацаваў аналагічныя, прафесарскі склад ў Варшаве палічыў кампазіцыю немагчымай. А гэтым аздабленням амаль 200 гадоў! Касцёл выразна дамінуе над кляштарам і звязаны з ім вузкім, схаваным у сценах, пераходам да вялізнай, скляпеністай рызніцы (сакрысція). Рызніца і скарбніца утвараюць блок, які звязвае касцёл з адкрытай на поўдзень падковай кляштару. Сціплы, аздоблены па швах бакавых муроў знешнімі пілястрамі касцёл з’яўляецца важным будынкам манастыра. Сукупнасць будынкаў купаецца ў багатай зяляніне, якая поіцца шматлікімі вясновымі раўчукамі, ад падножжа ўзгорка ўнутр касцёла ідзе багаты, добра прадуманы хор, ён нагадвае святога Якуба ў Вільні, але драбнейшы ў структуры. Пяць алтароў, два з якіх знаходзяцца ў нефе касцёла, а тры ў алтары, спраектаваныя адным мастаком, утвараюць суцэльную кампазіцыю ў стылі ракако. Уваход у капліцу, сёння часткова замураваны, але пасля яго адкрыцця капліца сальецца ў адзінае цэлае з касцёлам. Паўднёвая капліца паказвае нам больш складаны ўзор барока. Інтэр’ер асвятляецца з бакоў і дадае вельмі арыгінальныя гатычныя эфекты да дэкаратыўных барокавых сцен.

Далей, ля размешчанай воссю, трохі паглыбленнай, невялікай, акружанай жылымі дамкамі прамавугольнай плошчы, затрымалася сінагога з моцным барокавым аттыкам. У сваіх дэталях яна вельмі блізкая да кляштара бернардынаў. Яе інтэр’ер пакрыты скляпеннямі, заснаванымі на квадратным плане, і абапіраецца на чатыры слупы, якія змяшчаюць алтар. Тут жа мы знаходзім невялікія адтуліны ў мурах, якія дадаюць манументальнасці будынку.

***Заканчэнне ў наступным нумары***

# *Пра адкрыццё слонімскага музея*



20 верасня 1929 года ў Слоніме ў прысутнасці прэзідэнта Рэчы Паспалітай Ігнацыя Масціцкага ўрачыста быў адкрыты рэгіянальны музей, які стаў важным асяродкам даследчых працаў па вывучэнні гісторыі Слонімшчыны.

Яго заснавальнікам з'яўляўся Язэп Стаброўскі (1870 — 1968). У час вайсковай службы ён актыўна займаўся зборам разнастайных прадметаў гісторыі, у тым ліку старадрукаў. У 1924 годзе на іх падставе была арганізавана выстава, падчас правядзення якой узнікла ідэя пашырыць яе да музея. Але для гэтага спатрэбілася пяць гадоў руплівай працы. Адкрыццё прымеркавалі на час прыезду ў Слонім прэзідэнта І. Масціцкага.

У Дзень Канстытуцыі 3 мая ад імя слонімскага аддзела Польскага краязнаўчага таварыства (ПКТ) была надрукавана афіша аб будучай важнай падзеі. Яна ўяўляла сабой сапраўдны зварот да грамадскасці аб неабходнасці захавання помнікаў культуры: «Хочам засцерагчы ад знішчэння гістарычных багаццяў, музейных помнікаў нашай культуры, даць магчымасць належнага іх захавання і паказаць грамадству, а асабліва малодшаму пакаленню культурныя здабыткі». У афішы таксама мелася просьба аб перадачы гістарычных каштоўнасцей музею: «Асабліва горача просім уладальнікаў якіх-небудзь гістарычных рэчаў аб ласкавай перадачы іх у рэгіянальны музей, ці на захаванне музейных прадметаў, якія маюцца ў вас на руках: археалагічныя помнікі, нумізматычныя калекцыі ці асобныя манеты, газеты, дакументы, рукапісы і аўтографы, фатаграфіі з часоў вайны, посуд, прадметы народнай творчасці, прадметы бытавога ўжытку дамашняга вырабу (якія гінуць з-за развіцця фабрык), этнаграфічныя зборнікі, прадметы рэлігійнага культу».

20 верасня ў будынку староства, якое месцілася ў былым кляштары бернардзінцаў (па сённяшняй вуліцы Васі Крайняга) музей быў адчынены. У яго гонар выпусцілі спецыяльнае пасведчанне, напісанае на цялячай скуры і аздобленае каляровым гербам Слоніма. Побач з асноўным тэкстам дакумента меліся шматлікія подпісы ганаровых гасцей імпрэзы, сярод якіх подпіс І. Масціцкага, культурных і палітычных дзеячоў краіны, прадстаўнікоў гарадской эліты і інтэлігенцыі.

З мэтай ацэнкі дзейнасці рэгіянальнага музея, Слонім у 1930 годзе наведаў краязнавец М. Дрэўка. Ён адзначыў зборы слонімскага аддзела ПКТ толькі як "пачатак рэгіянальнага музея". Ахарактарызаваўшы экспазіцыю музея ў адпаведнасці з патрабаваннямі таварыства, Дрэўка асаблівую ўвагу звярнуў на праблему "належнага захавання калекцый, іх навуковай каталагізацыі і апрацоўкі, рацыянальнага размяшчэння мэблі ў залах і, нарэшце, самае галоўнае, такога прыстасавання музея пад навуковыя патрэбы, каб ён даваў уяўленне аб рэгіёне".

У той час слонімскі музей уяўляў сабою сукупнасць сабраных Я. Стаброўскім калекцый і належыў да гістарычнага профілю. Там меліся ў вялікай колькасці старыя дакументы, лісты і тэксты, у асноўным па гісторыі Слоніма, у тым ліку збор слонімскіх судовых актаў XVI-XVIII стст., шэраг старажытных кніг і гравюр, асобны куток прысвечаны падзеям 1863 года. Мастацкі аддзел напачатку быў невялікім і складаўся з узораў старога шкла і фарфору, слуцкага пояса, візантыйска-рымскіх рэліквій, некалькіх мініяцюр і медалёў, статуэтак (кітайская і дзве каўказскія), фрагментаў драўляных скульптур з мясцовых цэркваў. Нумізматычная калекцыя налічвала некалькі соцен узораў замежных манет і манет Рэчы Паспалітай, прадстаўленых у двух вітрынах, а таксама ўключала два вялікія скарбы шведскіх манет, адзін з якіх быў знойдзены ў Слонімскім павеце, а другі паходзіў з Палесся. Некалькі соцен экспанатаў налічваў археалагічны аддзел, аснову якога складалі крамянёвыя прылады працы і фрагменты неалітычнай керамікі. Сціпла выглядала этнаграфічная калекцыя: вышыўка некалькіх кашуль, два ручнікі і вясельны каравай. Аддзел прыроды уяўляў сабою невялікі куток з мінераламі і петраграфічнымі ўзорамі.

Экспанаты былі занесены ў інвентарную кнігу і мелі тлумачэнні ў выглядзе картак, якія ляжалі побач. На саміх прадметах ніякіх надпісаў не было. Недахопам музея з'яўлялася мэбля, якая складалася амаль выключна з плоскіх шафаў, пафарбаваных у белы колер.

У 1930 годзе слонімскі музей быў пераведзены на першы паверх будынка грамадскай бібліятэкі, у якой займаў два пакоі агульнай плошчай каля 55 м$^2$. Пасля яго адкрыцця цікавасць да музея з боку ўладаў горада зменшылася, чаму садзейнічаў і сусветны эканамічны крызіс. Падтрыманне яго ў належным стане цалкам залежыла ад Язэпа Стаброўскага.

Новы этап у развіцці музея надышоў у 1933 годзе, у сувязі са святкаваннем 400-годдзя надання Слоніму магдэбургскага права і 150-годдзя заканчэння будаўніцтва Агінскага канала.

**Васіль Герасімчык**

З АРХІВАЎ

# “Цудоўны гарадок, з сваім аблічкам і гісторыяй...”

*Ліст мастака Гаўрылы Вашчанкі да літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка*



*Народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка. Фота Дзяніса Раманюка.*



*Вуліца Оперная ў Слоніме. Здымак верасня 2015 года. Фота Аляксандра Ярша.*



*Раён Опернай вуліцы на плане Слоніма 1828 года*

Летам 1982 года Слонімшчыну наведаў вядомы мастак Гаўрыла Вашчанка (1928 — 2014), які здзяйсняў вандроўку па рэках Заходняй Беларусі. Пра свае ўражанні 31 жніўня ён напісаў з Мінска ў Брэст у лісце да літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка. Рукапіс захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Змяшчаем у гэтым нумары “СК” частку ліста, якая датычыць Слонімшчыны. Адзначым толькі, што Вашчанка памылкова піша, што вуліцу Оперную перайменавалі ў Карла Маркса, насамрэч — у вуліцу Энгельса. У пачатку 1990-х гадоў яна зноў стала Опернай. Ліст друкуецца ўпершыню з захаваннем моўных асаблівасцяў аўтара.

“Сёлета на сваім кацеры мы зрабілі вялікае падарожжа. Пачалі яго з Сапаўшчыны, што каля Валожына, 4 жніўня. Па Заходняй Бярэзіне спусціліся у Нёман, але ніжэй Добрачы, пераплылі да вусця Шчары і па ёй паднялiсь да Слоніма 22 жніўня...

Красівая зямля!

Я першы раз у Слонімі. Цудоўны гарадок, з сваім аблічкам і гісторыяй, жаль толькі[,] што мясцовая ўлада мала ганарыцца і аберагае гісторыю, нядаўна вуліцу Оперную (названую так[, бо] на ёй быў оперны тэатр[,] пабудаваны Агінскім раней[,] чым быў тэатр у Пецярбурзе і Варшаве) змянілі на К. Маркса, імя шаноўнае, але ў Слоніме ёсць і новыя вуліцы.

Смутак вызвала і царква ў Сынкавічах, твор сусветнага значэння на жаль у дрэнным становішчы.

Усё астатняе было цудоўным. Рэчкі, людзі і надвор’е залішылі* самые лепшые ўражанні”.

*БДАМЛіМ, ф. 161, в. 2, спр. 256, арк. 14, 14 адв.*

*Пакінулі.

Публікацыя
**Сяргея Ярша**

# Генрык Татур — археолаг і краязнаўца


ОЧЕРКЪ
АРХЕОЛОГИЧЕСКИХЪ ПАМЯТНИКОВЪ
НА ПРОСТРАНСТВѢ
МИНСКОЙ ГУБЕРНІИ
И ЕЯ
АРХЕОЛОГИЧЕСКОЕ ЗНАЧЕНІЕ.
СОСТАВИЛЪ И ИЗДАЛЪ
Г. Х. ТАТУРЪ.
МИНСКЪ.
Губернская Типографія.
1892.

17 верасня 1846 года (170 гадоў таму) ў Слоніме ў сям'і кіраўніка Слонімскага павятовага дваранства нарадзіўся Генрык-Франц Хрыстафоравіч Татур. Асоба таямнічая. Дагэтуль даследчыкі не змаглі знайсці яго фотаздымак ці партрэт...

У Слоніме Татур жыў мала. Большую частку жыцця ён правёў у Мінску і на Міншчыне, дзе стварыў знакаміты прыватны гістарычны музей, сабраў багатую бібліятэку (у ёй была «Біблія» Ф. Скарыны). Генрык Татур вядомы як археолаг, гісторык, краязнаўца і калекцыянер. Нястомны даследчык археалагічных помнікаў у 1892 годзе выдаў кнігу "Нарыс археалагічных помнікаў на прасторы Мінскай губерні і яе археалагічнае значэнне". Пісаў нарысы пра гісторыю Заслаўя, Станькава, Турава. Шкада, што нічога не напісаў пра гісторыю Слоніма, бо меў дакументы, якія не захаваліся да сённяшняга часу.

Татур меў мноства задумак і планаў, але далёка не ўсё паспеў рэалізаваць. Не здолеў ён і забяспечыць на будучае захаванне ў цэласці сваіх збораў. Яго не стала ў 1907 годзе. Пасля смерці нашага земляка экспанаты яго музея, бібліятэка былі прададзеныя па частках, у тым ліку і за мяжу.

**Генадзь Гурскі**

*Каляндар*

## Верасень



**1 верасня** 1893 года ў вёсцы Багданавічы Слонімскага раёна нарадзіўся Уладзіслаў Корчыц, савецкі военачальнік, генерал-палкоўнік. Памёр 17 кастрычніка 1966 года, пахаваны ў Маскве на Навадзевічых могілках.

**4 верасня** 1992 года ў канадскім горадзе Таронта памёр слонімскі паэт, грамадскі дзеяч, журналіст Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сіняк), паходзіць з вёскі Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна.

**15 верасня** 1915 года (па новым стылі) Слонім акупавалі нямецкія войскі.



**15 верасня** 1939 года ў вёсцы Юхнавічы Слонімскага раёна нарадзіўся Віктар Касінскі, знакаміты беларускі гандбольны трэнер. Выхаваў такіх майстроў, як Юрыя Шаўцова (цяперашняга трэнера нацыянальнай зборнай), Міхаіла Якімовіча, Георгія Свірыдзенку, Канстанціна Шараварава.



**17 верасня** (па новым стылі) 1860 года ў вёсцы Збочна Слонімскага раёна нарадзіўся Кандрат Лейка, беларускі пісьменнік, драматург, педагог, адзін з аўтараў газеты "Наша ніва". Памёр у верасні 1921 года, пахаваны ў Здалбунаве Ровенскай вобласці Украіны.

**18 верасня** 1939 года ў Слонім увайшла Чырвоная Армія, пачала ўсталёўвацца савецкая ўлада, прайшлі арышты прадстаўнікоў польскай адміністрацыі.

**20 верасня** 1929 года ў Слоніме Язэпам Стаброўскім заснаваны краязнаўчы музей.

**24 верасня** 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна нарадзіўся Сяргей Чыгрын, паэт, краязнавец, журналіст, літаратуразнавец, аўтар некалькіх дзясяткаў паэтычных, літаратуразнаўчых і краязнаўчых кніг.



**26 верасня** 1939 года выйшаў першы нумар раённай газеты "Вольная праца" (цяпер — "Слонімскі веснік").

**28 верасня** 1936 года ў Расіі нарадзіўся Рудольф Пастухоў, слонімскі паэт і грамадскі дзеяч. Жыў у Слоніме з 1970 года. Выдаў зборнік паэзіі "Судьба" (1994). Памёр 15 верасня 1997 года, пахаваны ў вёсцы Заверша Слонімскага раёна.

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры передруку спасылка на СК абавязковая

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык
Сяргей Ёрш
(рэдактар нумару)
Сяргей Чыгрын